


# ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ

Абласная незалежная масавая газета

Выдаецца з лістапада 1917 г.

Серада, 22 снежня 1993 г.
№ 166 (19301) Цана 15 руб.


## Падзеі. Факты. Каментарыі

◆ *У ПАРТЫЯХ І РУХАХ*

### З'езд — у студзені

Народны рух Беларусі на пасяджэнні каардынацыйнага савета прыняў рашэнне аб правядзенні ў канцы студзеня 1994 года аб'яднанага з'езда ўсіх палітычных сіл, якія падтрымліваюць мэты і задачы Народнага руху Беларусі.

### За датэрміновыя выбары

Каардынацыйны савет Народнага руху Беларусі з удзелам народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, якія ўваходзяць у гэты рух, абмеркавалі пытанне аб сітуацыі, якая склалася ў рэспубліцы. Прынята рашэнне аб неабходнасці правядзення датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

### Падтрымка камісіі А.Лукашэнкі

У апошнія дні самай папулярнай тэмай на старонках газет, у перадачах радыё і тэлебачання ды проста размоў у гарадскім транспарце быў даклад камісіі А.Лукашэнкі на сесіі Вярхоўнага Савета. І адносіны да гэтага дакумента самыя розныя.

Сваю думку выказаў і каардынацыйны савет Народнага руху Беларусі. З удзелам прадстаўнікоў 22 грамадскіх арганізацый і рухаў, а таксама народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь прынята такое рашэнне — поўная падтрымка дзейнасці народнага дэпутата А.Лукашэнкі.

Заяўлена, што НРБ паслядоўны прыхільнік рэформ, аднак яны не павінны праводзіцца за кошт народа.

У сувязі з дакладам А.Лукашэнкі выказаны асноўныя патрабаванні. У першую чаргу рашуча змяніць стратэгію рэформ, асабліва па пытаннях прыватызацыі, крэдытавання, інвесціравання, банкаўскай справы. Тэрміновае прыняцце закона аб дэклараванні даходаў. Вяртанне народу таго, што ў яго аднялі. Камісіі А.Лукашэнкі павінен быць нададзены статус пастаяннай з неабходнымі паўнамоцтвамі для эфектыўнай работы.

Па выкладзеных фактах неабходна тэрмінова пачаць следчыя дзеянні. Усе факты супрацьдзеяння рабоце камісіі з боку вышэйшых асоб (у прыватнасці, С.Шушкевіча і інш.) павінны расследавацца і атрымаць не толькі маральную, а і юрыдычную ацэнку.

◆ *З ЮБІЛЕЕМ!*

## РАДАСЦЬ УЗАЕМНАЙ ЛЮБОВІ

Яна зусім не збіралася стаць артысткай, ніколі не марыла пра тэатр — хіба можна марыць пра тое, чаго не ведаеш. Жыла на маленькай чыгуначнай станцыі, ніколі не бачыла ні горада, ні тэатра, радавалася блакітнаму небу, бясконцаму абсягу палёў і... спявала. Спявала любімыя беларускія песні, то сумныя, то вясёлыя. Спявала бясконца. Збіраліся вакол дзяўчаты, слухалі. Гэта былі яе першыя гледачы і паклоннікі, якія хутка пачалі называць Зіну не інакш, як "наша артыстка".



У тэатр Зіна Канапелька трапіла выпадкова. Пасля заканчэння школы прыехала ў Віцебск, запісалася на медыцынскія курсы, потым на бухгалтарскія. Сяброўкі, даведаўшыся пра набор у тэатральную студыю, угаварылі яе паспрабаваць шчасця там. Так у 15 гадоў вельмі прывабная, зграбная дзяўчына з залатымі косамі паўстала перад прыёмнай камісіяй, у складзе якой былі славутыя беларускія акцёры П.Малчанаў, Ц.Сяргейчык, Р.Кашэльнікава, А.Радзялоўская, А.Ільінскі. Яна чытала вершы, крыху разгубілася, а потым — заспявала. Незвычайна прыгожы лірычны голас зачараваў усіх. І яе прынялі адразу. Адразу і назаўсёды.

Вучоба ў студыі захапіла Зіну. Усё было: і слёзы, і перажыванні, і маленькія творчыя радасці. З першых крокаў яе акружылі ўвагай старэйшыя таварышы, выкладалі ўрокі майстэрства нядаўнія вучні мхатаўцаў. Яна радасна і прагна ўбірала ў сябе ўсё новае, раней невядомае. Потым настаўнікі сталі партнёрамі, а ў тэатральных афішах з'явілася новае імя — Зінаіда Канапелька.

Ёй вельмі пашанцавала. У спектаклі па п'есе В.Вольскага "Несцерка" яна атрымала ролю Настачкі. Яе гераіня вабіла маладосцю, абаяльнасцю, характвом беларускага нацыянальнага характару: лірычнасцю, пяшчотай, цнатлівасцю. А як цудоўна яна спявала беларускія народныя песні! Інакш і не магло быць, бо Зіна Канапелька самой прыродай створана для роляў беларускіх дзяўчат. Насця на ўсё жыццё засталася адной з любімых роляў.

Пасля Насці актрыса сыграла шмат лірычных і драматычных гераінь: Насцю ("Пяюць жаваранкі" К.Крапівы), Веру ("Домік на ўскраіне" А.Арбузава), Галю ("Алазанская даліна" К.Губарэвіча), Машу ("Ноч камандзіра" Г.Бярозкі) і інш. Поспех быў незвычайным. У яе ўлюбляліся, пісалі ёй пісьмы (дарэчы, і дагэтуль пішуць). Тагачасная тэатральная крытыка адразу заўважыла маладую актрысу. Побач з імем Канапелькі з'явіліся эпітэты: "паэтычная", "тэмпераментная", "лірычная".

( Заканчэнне на 4-й стар.).

Фота Г.ЖУКАВА.

## Экспрэс — інфармацыя

*Як паведамлялася ўжо, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч з 16 снежня праходзіў курс амбулаторнага лячэння. А ў панядзелак, 20 снежня, у сувязі з пагаршэннем стану здароўя ён шпіталізаваны ў Мінскую абласную клінічную бальніцу.*

**Выкарыстанне ў плацежным абароце купюр вартасцю 1, 3, 5 і 10 рублёў узору 1961—1992 гг. спыняецца па заканчэнні рабочага дня 31 снежня. Аб гэтым паведаміла Галоўнае ўпраўленне Цэнтрбанка па г. Маскве. З 1 студзеня 1994 года таксама не будзе праводзіцца абмен купюр узору 1961—1992 гг., выключаных з абарачэння на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. У той жа час разменная манета ўзору 1961-га і наступных гадоў любой вартасці застаецца ў плацежным абарачэнні.**

*Эксперты з Францыі станоўча ацанілі варыянт злучэння галоўнага ў Беларусі воднага шляху па Дняпроўска-Бугскаму каналу ў Еўрапейскую транспартную сістэму. Магчымасць зрабіць падарожжа ад Балтыйскага да Чорнага мора прыцягвае не толькі турыстычныя фірмы, а і монстраў эканомікі, якія разлічваюць выкарыстоўваць танны водны транспарт для перавозкі сыравіны і гатовай прадукцыі.*

**У Расійскай Федэрацыі ў першым паўгоддзі 1994 года агульны падпісны тыраж перыядычных выданняў складзе больш за 61 мільён экземпляраў. Некалькі ўпаў агульны падпісны тыраж часопісаў. Ён склаў 17,5 мільёна экземпляраў, "згубіўшы" крыху менш аднаго мільёна. Затое прыкметна "прыбавілі" газеты. Іх агульны падпісны тыраж — 43,6 мільёна.**

*Паход па СНД у 10 тысяч кіламетраў завяршыла 38-гадовая амерыканка Джанет Кестэр. У час свайго падарожжа яна праходзіла штодзённа па 25—50 кіламетраў. Пачаты ў Оршы ў сакавіку 1992 года, маршрут пралёг праз Цэнтральную Расію, Татарстан, Сібір, прывёў яе ва Уладзівасток і назад праз Краснаярск у Маскву, дзе і закончыўся.*

**У амерыканскім друку апублікаваны спіс самых багатых спартсменаў года. На першым месцы амерыканскі баскетбаліст Майкл Джордан. Яго даход сёлета склаў 36 мільёнаў долараў.**

*У штат 60-га паліцэйскага ўчастка Врукліна ў Нью-Йорку залічаны шэсць супрацоўнікаў, якія размаўляюць па-руску. Па словах намесніка начальніка ўчастка Эдварда Лэрса, яны будуць аказваць садзейнічанне жыхарам раёна Брайтан-Біч, дзе ў асноўным жывуць эмігранты з былога СССР, Расіі і краін СНД. "На Брайтан-Біч цяпер пражывае каля 22 тысяч чалавек. Палова з іх знаходзіцца на тэрыторыі ЗША нелегальна", — сказаў Лэрс.*

**Саракагадовы амерыканскі мастак Шымон Окштэйн валодае адзіным у ЗША аўтамабілем "Чайка" і збіраецца зрабіць з яго помнік савецкай эпохі. "Гэты атрыбут савецкага таталітарызму будзе нядрэнна глядзецца на пастаменце разам са скульптурай Іосіфа Сталіна," — лічыць мастак. Шымон Окштэйн атрымаў "Чайку" ў якасці аплаты за экспазіцыю сваіх работ у Маскве. Па яго словах, арганізатары выстаўкі не змаглі расплаціцца доларамі і прапанавалі ў якасці ганарару аўтамабіль, такі дзіўны на вуліцах Нью-Йорка. Сам Шымон Окштэйн эмігрыраваў у ЗША з украінскага горада Чарнаўцы ў 1979 годзе і зараз з'яўляецца адным з самых высокааплачваемых мастакоў ЗША..**

*Амерыканская кампанія "Лексіко" паднесла падарунак для школьнікаў. Яе спецыялісты стварылі так званы глобус Магелана. Па знешняму выгляду — гэта звычайны пластыкавы глобус. Але дастаткова дакрануцца да яго паверхні, як умантіраванае камп'ютэрнае ўстройства сінтэзаваным голасам вымаўляе назву адпаведнай краіны і яе сталіцы. "Банк памяці", прыкладаемы да наглядная дапаможніка, утрымлівае геаграфічныя звесткі аб 210 краінах. Кошт цуда-глобуса — 350 долараў.*

Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў, рэспубліканскіх і замежных газет.

## "У сэрцы прысягу нясу!"

Пад такім дэвізам з 24 снежня па 10 студзеня ў рэспубліцы пройдзе дэкада ваенна-патрыятычнага выхавання, прысвечаная першай гадавіне прывядзення да ваеннай прысягі афіцэраў Узброеных Сіл Беларусі, 50-годдзю вызвалення яе ад гітлераўскіх акупантаў.

Своеасаблівым творчым пралогам дэкады, якую праводзяць сумесна міністэрствы абароны і культуры пры ўдзеле ўсіх творчых саюзаў і аб'яднанняў рэспублікі, стаў канцэрт-справаздача зорак беларускай эстрады з'езду кампазітараў, які адбыўся ў Цэнтральным доме афіцэраў. На яго былі запрошаны таксама ветэраны вайны, працы і Узброеных Сіл.

Вялікая праграма дэкады багатая рознымі мерапрыемствамі, якія прызначаны адрадзіць забытыя за апошні час традыцыі ваенна-патрыятычнага выхавання моладзі. Выязныя канцэрты і спектаклі лепшых творчых калектываў і выканаўцаў пройдуць не толькі ў дамах афіцэраў і салдацкіх клубах, але і на сцэнах культурных цэнтраў прадпрыемстваў, устаноў, калгасаў і саўгасаў, у навучальных установах. Усюды будуць арганізаваны сустрэчы з пісьменнікамі, паэтамі, творчай інтэлігенцыяй. Моладзь пачуе з вуснаў ветэранаў праўду аб мужнасці і гераізме франтавікоў, партызан і падпольшчыкаў Вялікай Айчыннай вайны.

У воінскіх часцях і вучылішчах усё гатова да правядзення дзён "адчыненых дзвярэй", у час якіх юнакі, іх бацькі змогуць убачыць сённяшнія будні арміі. Мастакі рэспублікі правядуць вернісажы сваіх твораў ваенна-патрыятычнай накіраванасці. Адбудуцца кінавечары, канферэнцыі чытачоў, ушанаванне салдат і афіцэраў, якія вызначыліся ў ратнай працы.

Леанід СТРАЦЭЎСКІ,
Белінфарм.

# Сёння — Дзень энергетыка

## НАПЕРАКОР ЦЯЖКАСЦЯМ

У 73-ці раз адзначаюць сёння энергетыкі сваё прафесійнае свята. І што б ні гаварылі зараз пра нашу савецкую гісторыю, ніхто не абвергне той бясспрэчны факт, што сапраўдная электрыфікацыя Расіі, а адпаведна і Беларусі, пачалася менавіта з прыняцця стратэгічнага плана ГОЭЛРО. Іменна згодна з ім у канцы дваццатых гадоў пад Оршай была ўзведзена славутая БелДРЭС, якая і цяпер працуе на нашу народную гаспадарку.

Калі ацэньваць сённяшнюю энергетыку Віцебшчыны, то яна — самая развітая ў рэспубліцы. Устаноўленая магутнасць нашых станцый перавышае тры тысячы мегават — гэта амаль палавіна ўсёй электрычнай моцы Беларусі. Штогод мы выпрацоўваем каля 17 мільярдаў кілават-гадзін электраэнергіі, прычым большую частку яе перадаём за межы вобласці, і звыш 10 мільёнаў гігакалорый цеплавой энергіі. Унушальная ў нас — 48 тысяч кіламетраў! — і сетка ліній электраперадачы markознага напружання, якія аснашчаны сучаснымі прыладамі аховы, аўтаматыкі і тэлемеханікі.

У апошнія гады паспяхова ажыццяўляецца праграма пераводу электрастанцый і буйнейшых кацельняў на выкарыстанне прыроднага газу, што дазваляе істотна павысіць надзейнасць і эканамічнасць работы абсталявання, зменшыць выкіды шкодных рэчываў у атмасферу. Дарэчы, яго доля ў агульным расходзе паліва даведзена да 56 працэнтаў, і ўжо сёння мы выконваем патрабаванні Міжнароднай канвенцыі аб трансгранічным пераносе забруджваючых рэчываў. Словам, такой энергетыкай, як наша, смела можна ганарыцца.

Здавалася б, нам застаецца толькі радавацца, аднак радавацца не прыходзіцца. Распад Саюза паставіў нас у такое становішча, выблытацца з якога надзвычай цяжка. Галоўнейшыя праблемы — забеспячэнне станцый палівам, абсталяваннем і запаснымі часткамі, належнымі матэрыяльнымі сродкамі. Склалася так, што з усіх былых саюзных рэспублік толькі ў трох — Расійскай Федэрацыі, Казахстана і Туркменіі — хапае ўласных энергарэсурсаў, астатнія павінны іх імпартаваць. У прыватнасці, Рэспубліка Беларусь 90 працэнтаў сваёй патрэбнасці ў паліве пакрывае шляхам закупкі яго ў Расіі. Толькі станцыям нашай вобласці неабходна на год больш за 6 мільёнаў тон умоўнага паліва!

А цэны на паліва, якое "цягне" 84 працэнты сабекошту нашай прадукцыі, няспынна растуць і практычна дасягнулі сусветнага ўзроўню. Скажам, тона мазуту каштуе ўжо 60—65 долараў, або 470 тысяч беларускіх "рублёў". За адны суткі наша энергасістэма спальвае іх цяпер 5 мільярдаў! Горш таго, для аплаты паліва патрэбны не беларускія, а расійскія рублі ці валюта, якіх мы не маем і таму, у сваю чаргу, патрабуем ад сваіх спажыўцоў. А ў іх гэтак жа пуста. Вось і атрымліваецца, што аб'яднанне ў пастаянным даўгу перад пастаўшчыкамі, не можа набываць паліва, асабліва мазут, у неабходных аб'ёмах. Так, па стану на 17 снежня наш доўг за газ быў роўны 44 мільярдам расійскіх рублёў! І хоць нашы спажыўцы запазычылі нам таксама велізарную суму, ад гэтага не лягчэй. Дайшло да таго, што станцыі, дзе выкарыстоўваецца мазут, працуюць практычна "з колаў" — запасаў амаль няма. З-за вялікай нашай запазычанасці Расія перыядычна абмяжоўвае і пастаўкі газу. Недахоп грошай ускладняе і набыццё абсталявання, запчастак, матэрыялаў, якія мы атрымліваем больш як з трохсот заводаў Расіі, Украіны і іншых краін СНД.

І пры ўсім пры тым дзякуючы вялікім намаганням калектываў мы працуем пакуль увогуле стабільна і без вялікіх збояў забяспечваем электрычнасцю і цяплом спажыўцоў. За адзінаццаць месяцаў рэканструявана 705 кіламетраў электрычных і 15 кіламетраў цеплавых сетак, на мадэрнізацыю гаспадаркі выдаткавана звыш 4 мільярдаў рублёў. Паводле падлікаў, рэнтабельнасць за год складзе 13,5 працэнта. Гэта мала, але што зробіш...

Канечне ж, ва ўмовах дэфіцыту паліва найпершым сваім абавязкам мы лічым бесперабойнае энергасілкаванне насельніцтва, камунальна-бытавой сферы, водаправода, хлебных, малочных заводаў і г.д. Прадпрыемствам іншых галін, як ні шкада, давядзецца крыху зменшыць свае "апетыты". Натуральна, сёння на першы план выступае пытанне эканоміі. Што датычыць самой нашай энергасістэмы, то за студзень—лістапад яна зберагла больш за 15 тысяч тон паліва. Дарэчы, такой яго колькасці хопіць для Віцебскай ЦЭЦ на два тыдні, а Аршанскай ТЭЦ — амаль на паўтара месяца работы. Імкнуцца ашчадна выдаткоўваць энергарэсурсы і многія прамысловыя прадпрыемствы, у прыватнасці, полацкае аб'яднанне "Шкловалакно", аб'яднанне "Віцебскдрэў", аршанскія газакампрэсарная станцыя і завод "Чырвоны барацьбіт", Віцебскі тэлезавод і іншыя. Тым не менш праблеме эканоміі паўсюдна трэба ўдзяліць самую пільную ўвагу. Гэта датычыць і насельніцтва. Без эканоміі ў сённяшніх умовах можна панесці яшчэ большыя страты.

Так, няпроста нам зараз прыходзіцца. І ўсё ж свята ёсць свята! У гэты дзень проста грэх было б не ўспомніць пра тых, хто, нягледзячы на ўсе цяжкасці, прыкладае свой вопыт, веды, стараннe для таго, каб народная гаспадарка вобласці магла ўсё ж дзейнічаць, каб людзі не аказаліся без цяпла і святла. Няхай прабачаць мне чытачы за даволі доўгі спіс прозвішчаў, але ж, думаецца, і яны павінны ведаць нашых перадавікоў, магчыма, сёй-той сустрэне сярод іх і сваіх знаёмых і блізкіх.

Гаворачы аб нашых лепшых вытворчых падраздзяленнях, хочацца назваць Лукомльскую ДРЭС, Глыбоцкія электрасеткі, Бешанковіцкі, Чашніцкі і Сенненскі раёны электрасетак, Глыбоцкае аддзяленне прадпрыемства "Энерганагляд". Іх калектывы і ў цяперашніх абставінах дабіваюцца ўстойлівай работы, спраўляюцца са сваімі задачамі.

Як вядома, энергетыка патрабуе ад работнікаў высокай кваліфікацыі, дысцыпліны і адказнасці. Якраз гэтыя якасці характэрныя для такіх нашых кіраўнікоў, як начальнік электратэхнічнай лабараторыі БелДРЭС Віктар Сямёнавіч Барабуля, інжынер першай катэгорыі Віцебскіх цеплasетак Ірына Трафімаўна Кабанава, вядучы інжынер Аршанскай ЦЭЦ Алег Спірыдонавіч Макаеў, начальнік змены Лукомльскай ДРЭС Ісаак Рувімавіч Шышлянікаў, інжынер другой катэгорыі прадпрыемства "Энерганагляд" Мікалай Міхайлавіч Ляхновіч, начальнік электрацэха Полацкай ЦЭЦ Пётр Еўдакімавіч Мільяненка, намеснік начальніка цэха Віцебскай ЦЭЦ Віктар Уладзіміравіч Міхайлоўскі, начальнік участка прапіткі драўніны БелДРЭС Міхаіл Апанасавіч Апіок, старшы майстар Арэхаўскага ўчастка Аршанскіх электрасетак Іван Яфімавіч Уцянок, старшы майстар Полацкіх электрасетак Мікалай Дзмітрыевіч Шыпоўскі, майстар Браслаўскага раёна электрасетак Міхаіл Адамавіч Хрол, майстар Наваполацкай ЦЭЦ Уладзімір Паўлавіч Шаўцоў і іншыя.

Сярод тых, хто непасрэдна забяспечвае работу нашай складанай энергагаспадаркі, хочацца адзначыць брыгадзіра слесараў Лукомльскай ДРЭС Мікалая Мікалаевіча Антонава, машыніста турбін Наваполацкай ЦЭЦ Васіля Пракопавіча Паўчанку, электраманцёра Віцебскіх электрасетак Генадзя Іванавіча Зубца, вадзіцеля Аршанскіх электрасетак Мікалая Данілавіча Цімошчанку, электразваршчыка Віцебскіх цеплaсетак Мікалая Васільевіча Дзярабіна, электраслесара Лукомльскай ДРЭС Пятра Станіслававіча Марцінкевіча, старшага машыніста турбін Віцебскай ЦЭЦ Аляксандра Генадзьевіча Драздова, электраманцёра Полацкіх электрасетак Мікалая Платонавіча Бігунова і многіх, многіх іншых. На жаль, тут проста немагчыма назваць усіх, хто сваёй стараннай штодзённай працай заваяваў павагу і аўтарытэт, заслугоўвае самых цёплых слоў. І таму ў заключэнне я хачу сказаць усім энергетыкам: са святам вас, дарагія калегі! І ўсяго вам самага найлепшага!

М.САМАДЗЕЕЎ,
генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання "Віцебскэнерга".





Лукомльская ДРЭС, гэтак жа, як некалі БелДРЭС, можа служыць сёння сімвалам энергетыкі Беларусі. Будавалася яна сапраўды ўдарнымі тэмпамі — 28 снежня 1969 года быў пушчаны яе першы турбагенератар, а ў 1974-м — восьмы, апошні па ліку. Цяпер гэта станцыя — самая буйная ў рэспубліцы, яе магутнасць — 2 мільёны 400 тысяч кілават. Па ўсіх асноўных тэхніка-эканамічных і эксплуатацыйных паказчыках — расходу электраэнергіі на ўласныя патрэбы, каэфіцыенту эфектыўнасці выкарыстання ўстаноўленай магутнасці яна з'яўляецца перадавой у Беларусі, а па ўдзельнаму расходу паліва на адпушчаную кілават-гадзіну можа спаборнічаць з лепшымі цеплавымі станцыямі развітых краін. Варта дадаць, што ў апошні час усе яе катлаагрэгаты пераведзены з мазуту на прыродны газ, што дазваляе лягчэй вырашаць сённяшнюю паліўную праблему.

На здымках уверсе: справа — агульны від Лукомльскай ДРЭС, злева — дзяжурства на блочным шчыце кіравання нясе адзін з самых спрактыкаваных машыністаў блока Іван Канстанцінавіч Манькоўскі.







На здымках: злева — ганаровы ветэран Наваполацкай ЦЭЦ электраслесар Павел Іванавіч Бельскі; уверсе — перадавыя машыністы гэтай станцыі Васіль Пракопавіч Паўчанка, Генадзь Яфімавіч Кожар і начальнік змены Іосіф Іосіфавіч Травіцкі; справа — адна з перадавых інжынерных работнікаў вытворча-тэхнічнага аддзела Віцебскіх цеплaсетак Ірына Трафімаўна Кабанава і святлакапіравальшчыца Галіна Шалудчанкава; унізе злева — машыніст паравых і вадагрэйных катлоў Віцебскіх цеплaсетак Міхаіл Іванавіч Комлеў і майстар змены цеплaсетак Мікалай Міхайлавіч Пахноцкі; справа — старшы майстар службы рэлейнай аховы і аўтаматыкі Аляксандр Іосіфавіч Саламонік, дыспетчары Надзежда Уладзіміраўна Шарстнёва і Дзмітрый Гаўрылавіч Жук на галоўным шчыце кіравання магутнай падстанцыі "Віцебская".

Фота Г.ЖУКАВА і Я.КАПУСЦІНА.





## ВЫПРАБАВАННЕ СТЫХІЯЙ

Такога бедства, што адбылося ў канцы кастрычніка ў паўночнай зоне вобласці, у нашай энергасістэме ніколі яшчэ не здаралася. З-за вялікага снегападу і абледзянення правадоў, падзення на іх абцяжараных дрэў пачалося масавае адключэнне як асноўных, так і размеркавальных ліній электраперадач. Можна ўявіць, як павялічылася вагавая нагрузка на лініі, калі рваліся правады сячэннем 120, 185 квадратных міліметраў са сталёвым сардэчнікам, ламаліся тоўстыя жалезабетонныя слупы.

Аб маштабах разгулу стыхіі і яе выніках сведчаць такія факты. 23—26 кастрычніка, а пачалося якраз з суботы і нядзелі, адключаліся 18 ліній напружаннем 110, 26 ліній напружаннем 35 і 360 ліній напружаннем 10 кілавольт, 5085 трансфарматарных падстанцый, 146 калгасаў і саўгасаў, 569 жылёлагадоўчых ферм. Асабліва пацярпелі Расонскі, Верхнядзвінскі, Полацкі, Міёрскі, Браслаўскі раёны. Каб аднавіць падачу электраэнергіі, давялося зняць з правадоў 3758 паваленых дрэў, ліквідаваць 1653 абрывы правадоў, устанавіць 1166 жалезабетонных і драўляных апор, што раўназначна будаўніцтву звыш 100 кіламетраў новых сетак.

Аб'ём аднаўленчых работ быў сапраўды велізарны. І ўсё ж мы справіліся. Праз чатыры дні электраэнергію атрымалі апошнія жывёлагадоўчыя фермы, а яшчэ праз дзень — усе населеныя пункты. Безумоўна, выключную ролю тут адыграла аператыўная дапамога ўрада і нашага міністэрства. У пацярпеўшыя раёны з іншых абласцей былі "кінуты" 14 брыгад з неабходнай тэхнікай, накіравана 13 вагонаў жалезабетонных апор са Светлагорска, лесавозы з апорамі са Слуцка і Рудзенска, 20 барабанаў алюмініевага провада, дзесяткі тон металаканструкцый. Нам прыйшлося поўнасцю выкарыстаць свае рэзервы. Усяго ў аднаўленні ліній удзельнічала больш за 2 тысячы чалавек. І працавалі яны сапраўды адмыслова, не лічачыся ні з чым.

Так, стыхія праверыла энергетыкаў на трываласць. І мы пераканаліся — у экстрэмальных умовах нашы людзі могуць дзейнічаць арганізавана, зладжана і дружна. І гэта, напэўна, самы галоўны вывад з выпрабавання стыхіяй.

В.ПРОХАРАЎ,
начальнік службы электрасетак ВА "Віцебскэнерга".

# РАДАСЦЬ УЗАЕМНАЙ ЛЮБОВІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Ішлі гады. Актрыса сталела і як чалавек, і як творца. І вось у спектаклі "Несцерка" яна ўжо іграе ролю Мальвіны, маці сваёй любімай Настачкі, вельмі арганічна перайшоўшы на "ўзроставыя ролі". Тут па-новаму расквітнеў талент актрысы, забіў шчодры струмень яе камедыйнага даравання.

Каго б ні іграла Зінаіда Ігнатаўна — адмоўных персанажаў, такіх, як Разалія Паўлаўна ("Клоп" У.Маякоўскага), Мара ("Доктар філасофіі" Б.Нушыча), Ягадка ("Амністыя" М.Матукоўскага), ці ролі станоўчыя — Лявоніха ў аднайменнай п'есе П.Данілава, Паліна ("Трыбунал" А.Макаёнка), Міхаліна ("Трывога" А.Петрашкевіча), Аксана ("Таблетку пад язык" А.Макаёнка) — яе героіні заўсёды шчырыя, псіхалагічна дакладныя. Актрыса надзяляе іх рысамі, убачанымі ў глыбінях самога жыцця. Ёй уласцівы сапраўды народная прастата і задушэўнасць, пачуццё гумару і аптымізм. Яна дакладна перадае нацыянальны тэмперамент сваіх гераінь, шчырасць і глыбіню іх эмоцый, іх невычэрпную жыццястойкасць і жыццялюбства. Пасля прэм'еры "Трывогі" аўтар Алесь Петрашкевіч напісаў актрысе: "Нават не ведаю цяпер, якая Міхаліна лепшая — тая рэальная, з якой я пісаў вобраз, або тая, якую Вы стварылі ў спектаклі. Шчыры Вам дзякуй!"

Калі акцёр на сцэне сапраўды пражывае жыццё сваіх герояў, то Зінаіда Канапелька пражыла каля 250 жыццяў — шчаслівых і няшчасных, поўных паэтыкі і драматызму. Яна была каралевай Елізаветай у "Марыі Сцюарт" Ф.Шылера, Ганэрыльяй у "Каралі Ліры" У.Шэкспіра, Аксанай у "Гібелі эскадры" А.Карнейчука, Юстынай у аднайменнай п'есе Х.Вуалёкі, Парашай у "Гарачым сэрцы" А.Астроўскага, Наташай у "Трох сёстрах" А.Чэхава, Сафік у "Заставайцеся сонцам" А.Папаяна. Тут толькі некаторыя ролі, але па іх можна меркаваць, наколькі разнапланавае акцёрскае дараванне актрысы, якая багатая палітра яе вобразаў. Гэту вялікую і надзвычай стракатую людскую грамаду яднае адна істотная рыса — усе сцэнічныя вобразы ўвасоблены беларускай актрысай і на кожным з іх пры непадабенстве нацыянальнасцей і характараў ляжыць вобразны адбітак непаўторнай індывідуальнасці Зінаіды Канапелькі, бо яна актрыса народная па самой глыбіні сваёй сутнасці, сваім духу, вельмі самабытная, менавіта беларуская. Таму і створаныя ёю розныя вобразы набываюць своеасаблівую адметнасць.

У адной з рэцэнзій беларускі крытык Б.Бур'ян вельмі дакладна адзначыў, што гераіні Канапелькі "думаюць сэрцам. Пільным. Сляпым. Слабым. Моцным. Мудрым. Безабаронным, але — сэрцам!" Лепей і больш дакладна не скажаш.

Беглі гады, накопліваўся вопыт, павялічваліся любоў і прызнанне гледачоў. Сталы майстар Зінаіда Канапелька не лічыць заганным выехаць у вёску, побач з моладдзю прыняць удзел у масоўцы. Калі яна, напрыклад, выходзіла ў масавых сцэнах у спектаклях "Кастусь Каліноўскі" і "Званы Віцебска" У.Караткевіча і гаварыла ўсяго некалькі слоў, сцэна станавілася ярчэйшай ад прысутнасці сапраўды народнага характару.

Свой багаты акцёрскі вопыт Зінаіда Ігнатаўна шчодра і шчыра перадае моладзі. І сёння маладыя артысткі — выканаўцы ролі Настачкі ў "Несцерку" гадзінамі слухаюць яе чароўны голас, які, на шчасце, захаваўся на магнітафоннай стужцы, спасцігаюць сакрэты яе сцэнічнага майстэрства.

Жыццё — тэатр. Тэатр — жыццё. Не многія акцёры здольныя на такое самаахвяраванне. У актрысы не было іншага жыцця. Канечне, было, але ўсе яго радасці і нягоды звязаны з жыццём тэатра.

Заслужаная артыстка, народная артыстка — гэта ступені прызнання. Побач з ордэнамі і медалямі (Дружбы народаў, "Знак Пашаны", "За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне"), некалькімі Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР — значкі, зусім незвычайныя для актрысы: "Выдатнік міліцыі", "Выдатнік Савецкай Арміі"... Чым маглі, дзякавалі ёй за талент. Яна — ганаровы грамадзянін Віцебска.

Зінаіда Ігнатаўна часта ездзіць на творчыя сустрэчы. Для яе гэта — працяг тэатра. Як і грамадскія справы. А іх у актрысы шмат. Тым больш, ёсць пра што расказаць, запаліць у чалавека іскрынку любові да мастацтва. Гэта вельмі ганаровая місія народнай артысткі.

Зазірнём у сённяшнюю афішу Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я.Коласа: "Мудрамер" М.Матукоўскага, "Несцерка" В.Вольскага, дзе яна іграе ўжо трэцюю сваю ролю — жонку суддзі, "Будзьце здаровы!" П.Шэно (роля Луізы — адна з лепшых у рэпертуары актрысы апошніх гадоў), "Верачка" А.Макаёнка (Арына Радзівонаўна) — спектаклі з удзелам народнай артысткі БССР Зінаіды Канапелькі. Актрысы, якая 60 гадоў працуе ў адным тэатры, якая аддала сцэне ўсё жыццё. Усе гады. Усё, што ёсць. І аддасць яшчэ.

Кожны яе выхад на сцэну — узор самаадданай працы, любові да тэатра і гледача. І любоў гэта — узаемная.

**Т.ШПАКАВА.**


*Заснавальнік — працоўны калектыў рэдакцыі*
*Галоўны рэдактар У. Р. СКАПА*





210601, ГСП, г. Віцебск, вул. Гогаля, 17





прыёмная рэдактара—37-34-40, намеснік рэдактара—37-06-89, камерцыйны дырэктар—37-33-06, сакратарыят—37-02-11, 37-45-63, аддзел пісьмаў і сувязей з чытачамі—37-30-43, служба навін—37-31-56, аглядальнікі: па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў—37-01-45, па пытаннях грамадска-палітычнага жыцця—37-31-56, па пытаннях культуры, адукацыі і нацыянальнага адраджэння—37-74-43, па прамыслова-эканамічных пытаннях—37-06 54, па пытаннях сельскага жыцця—37-06-54, па пытаннях маралі і права—37-31-34, па пытаннях ваенна-патрыятычнага выхавання—37-35-44, аддзел ілюстрацыі і афармлення—37-02-11, рэдактар "Рекламного приложения"—37-45-63, бухгалтэрыя—37-03-69, старшы інспектар па аб'явах—37-21-60. Карэспандэнцкія пункты: Орша—2-42-98, Полацк—4-52-47, Глыбокае—2-19-33, Шуміліна—2-12-40.





Газета выходзіць па аўторках, серадах, пятніцах і суботах.

Набрана і звярстана МКП «ФАРМАТ». Надрукавана афсетным спосабам у абласной узбуйненай друкарні імя Камінтэрна. Віцебск, Шчарбакова-Набярэжная, 6. Аб'ём — 1 друкаваны аркуш. Фармат А3. Індэкс 63913. Тыраж 23403. Зак. 166.

«ВИТЕБСКИЙ РАБОЧИЙ»— областная независимая массовая газета. На белорусском языке.


**В редакцию газеты "Віцебскі рабочы"**

Родные и близкие выражают сердечную благодарность администрации и коллективам облснабсбыта и УМ-234 треста № 28 за оказание помощи в организации и проведении похорон ГУГНИНА Виктора Ивановича.

Коллектив работников комитета по сельскому хозяйству и обеспечению населения продовольствием облисполкома глубоко скорбит в связи с безвременной смертью председателя колхоза "Звезда" Лиозненского района КУНЦЕВИЧА Виталия Антоновича и выражает соболезнование родным и близким умершего.